...не разбіць, не спыніць, не стрымаць

# Голас Ліды



№ 8 (42) 20 ЛЮТАГА 2001 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## Ліда падтрымлівае Сямёна Домаша



Домаш Сямён Мікалаевіч нарадзіўся 2.01.1950 г. у в. Тумашы Ляхавіцкага раёна Берасцейскай вобласці. Беларус. Беспартыйны. Адукацыя вышэйшая. Эканаміст. Закончыў Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум, Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі.

Працоўную дзейнасць пачаў у 1969 годзе механікам па рамонту аўтамабіляў Астравецкай аўтабазы № 4 Гарадзенскага аблаўтаупраўлення.

З 1970 па 1974 гг. – галоўны інжынер, з 1974 па 1977 гг. – дырэктар Астравецкай аўтабазы № 4.

1977 – 1982 гг. – дырэктар Гарадзенскага грузавога аўтакамбіната № 1.

1982 – 1983 гг. – заг. прамыслова-транспартным аддзелам Гарадзенскага Гаркама КПБ.

1983 – 1987 гг. – другі сакратар Кастрычніцкага райкама КПБ г. Горадні, курыраваў работу прамысловасці, транспарту, будаўніцтва ды іншых галінаў народнай гаспадаркі раёна.

**У 1987 г. абраны старшынём Лідскага гарвыканкама і гарадскога Савета дэпутатаў.**

У 1990 г. абраны старшынём Гарадзенскага гарвыканкама.

З 1991 г. – старшыня Гарадзенскага гарвыканкама і гарадскога Савета дэпутатаў.

У 1993 г. абраны старшынём Гарадзенскага аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў.

Са снежня 1994 да мая 1996 года – старшыня Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў.

Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў.

У маі 1996 года абраны сябрам Прэзідыюма Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.

Жанаты. Два сыны і ўнук.

## У Лідзе створаны штаб для забяспечання дэмакратычнасці будучых прэзідэнцкіх выбараў

На аснове Лідскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэнне" ў Лідзе створаны Штаб для забеспячэння дэмакратычнасці будучых прэзідэнцкіх выбараў.

Задачамі штабу на сённяшнім этапе палітычнага жыцця з'яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў для назірання за выбарамі для вядзення передвыбарчай агітацыі, для збору подпісаў за дэмакратычнага кандыдата.

Улічваючы, што дэмакратычныя арганізацыі Ліды ў большасці сваёй нацэлены на падтрымку на будучых выбарах Сямёна Домаша, створаны штаб пры пэўных абставінах можа быць даволі хутка ператвораны ў перадвыбарчы штаб Сямёна Домаша.

Лідская арганізацыя БНФ "Адраджэнне" даводзіць да сваіх прыхільнікаў, а таксама сяброў саюзных партый, што для забяспечання назірання на ўсіх участках горада і раёна правядзення агітацыі і, асабліва, збору подпісаў патрэбна вельмі шмат людзей. Усіх, хто гатовы папрацаваць на будучую дэмакратычную Беларусь, просім звяртацца ў сядзібы БНФ "Адраджэнне", БСДП "Народная грамада", АГП, або дасылайце свае каардынаты [illegible] на адрас газеты.

## ДЗЕНЬ СЬВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

Першымі Дзень усіх закаханых адзначылі ў Жодзіне і Слоніме.

11 лютага ў Жодзіне (Менская вобласьць) адбылася Рок-дыскатэка пад назвай "Меламанія", прымеркаваная да Дня Сьвятога Валянціна. Яе ладзілі сябры маладзёвых арганізацыяў гораду - Малады Фронт, "Ліцьвіны", Скаўцкі Зьвяз "Белыя Ваўкі", Рок-клюб "Краіна Волі" ды "Underground World". На мерапрыемстве выступалі беларускамоўныя гурты, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, раздаваліся сьвяточныя віншаваньні, "Дэкларацыя правоў чалавека", апошнія нумары незалежных бюлетэняў "Наш Шлях", "Мы-Ліцьвіны", "Школьны Весьнік".

У Слоніме сябры маладзёвых арганізацыяў "Ветразь" і "Малады Фронт" на гарадзкім рынку раздавалі сьвяточныя налепкі, віншаваньні і жуйкі "Love is...".

Абодва мерапрыемствы прайшлі ў рамках агульнанацыянальнай акцыі "Любові! Свабоды! Пераменаў!", ініцыятарам якой выступае Кааліцыя маладзёвых арганізацыяў "Пераменаў!". Акцыі з нагоды Дня Сьвятога Валянціна прайшлі 14 лютага ў 32 гарадах Беларусі.

## "ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ" АБАРАНЯЮЦЬ СВАЮ ГОДНАСЬЦЬ

11 лютага праўленьнем Гомельскага грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы" была прынятая заява, скіраваная да гармадзкіх аб'яднаньняў Рэспублікі Беларусь, міжнародных арганізацыяў і сродкаў масавай інфармацыі.

У заяве выказваецца занепакоенасьць дзеяньнямі ўлады і кампаніяй шэльмаваньня, якая пачалася на дзяржаўным тэлебачаньні (маецца на ўвазе фільм "Тайные пружины политики", які двойчы паказалі з 3 па 9 лютага). У заяве гаворыцца, што дзейнасьць арганізацыі не выходзіць за рамкі дзейных заканадаўчых і нарматыўных актаў краіны, а таксама Статуту арганізацыі. Сапраўднай прычынай шэльмаваньня, на думку сябраў аб'яднаньня, стала жаданьне нэўтралізаваць арганізацыі, здольныя ажыцьцяўляць назіраньне за выбарамі, што маюць адбыцца сёлета, і пры выпадку давесьці іх недэмакратычнасьць і незаконнасьць. На выбарах 2000 году менавіта "Грамадзянскія ініцыятывы" выканалі ролю арганізацыйнага і каардынацыйнага цэнтру па Гомельскай вобласьці.

"Грамадзянскія ініцыятывы" занепакоеныя заклікам да расправы над арганізацыяй і яе сябрамі, які прагучаў у фільме. Магчымая любая, нават самая гнюсная правакацыя. Так, кантакты з замежнымі партнэрамі з больш як 20 краінаў сьвету у любы момант могуць быць прадстаўленыя як шпіёнская дзейнасьць. Можа быць арганізаваная любая падзея, якая дасьць падставу ўладам спыніць дзейнасьць "Грамадзянскіх ініцыятываў". Такіх дзеяньняў, паводле заявы, мона чакаць у дачыненьні да любой арганізацыі трэцяга сэктару.

"Грамадзянскія ініцыятывы " ня маюць намеру згортваць сваю дзейнасьць.

## У БЯЛЫНІЧАХ ЗЬЯВІЎСЯ "ЗУБР"

У ноч з 8 на 9 лютага на фасадах дванаццаці будынкаў у Бялынічах (Магілёўская вобласьць) зьявілася слова "Зубр". Што гэта значыць - ніхто з жыхароў мястэчка ня ведае, аднак у іх адразу зьвілася каля дзясятка варыянтаў расшыфроўкі.

Мясцовым райадзьдзелам міліцыі была ўзбуджана адміністрацыйная справа па факце хуліганства. Да дачы тлумачэньняў былі прыцягнутыя кіраўнік мясцовае суполкі ГА "Маладая Грамада" Алег Мяцеліца, ягоны брат Мікола і сябра арганізацыі Міхась Белязяка. Пакуль аніякіх доказаў іхнае далучнасьці да заняткаў графіці міліцыя ня мае. Хлопцы адмаўляць свой удзел у росьпісе фасадаў бялыніцкіх дамоў.

## БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ СЬВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

У Менску ў акцыі "Любові! Свабоды! Пераменаў!", якую ладзіла маладзёвая кааліцыя "Пераменаў!", прыняло ўдзел каля трох тысячаў чалавек. Акцыя пачалася на пл. Свабоды. Моладзь раздавала валянцінкі - сардэчкі з цытатамі зь Бібліі пра любоў. Былі наладжаныя пэрфомансы "Эўрапейскія сьцягі", "Анёлачак", "Супэр-прыз".

Прыблізна а 17.30 над натоўпам узьняўся сьцяг Эўразьвязу, і калёна рушыла да пр. Скарыны. Моладзь зрабіла спробу выйсьці на праспэкт, але сустрэла адпор міліцыі. Калёна прайшла да ст. мэтро "Плошча Перамогі" і разышлася. Арганізатары акцыі ацэньваюць яе як удалую. Паводле іх словаў, вельмі важна было не дапусьціць масавых сутыкненьняў і затрыманьняў.

Падчас акцыі шэсьць чалавек былі затрыманыя і два - зьбітыя людзьмі ў цывільным.

Удзень прадстаўнікі Маладога Фронту і маладзёвай кааліцыі віншавалі са сьвятам сьв. Валянціна прадстаўнікоў замежных краінаў у Менску. Сустрэчы на высокім узроўні адбыліся ў амбасадах ЗША, Нямеччыны, Літвы, Польшчы, Чэхіі - усяго павіншавалі 18 краінаў Прадстаўнікоў моладзі паўсюль сустракалі ветліва. Так, намесьнік амбасадара ЗША сп. Кунштатэр спрабаваў размаўляць з моладзьдзю па-беларуску. Амбасадар Літвы Йонас Паслаўскас прыняў віншаваньні ня толькі з нагоды Дня сьв. Валянціна, але і Дня незалежнасьці Літвы.

Буйныя акцыі адбыліся ў Віцебску, Бабруйску, Магілёве, Берасьці, Горадні.

Віцебская арганізацыя "Маладога Фронту" правяла масавую несанкцыянаваную акцыю "Любові. Волі. Пераменаў", у якой прыняло ўдзел блізу 400 чалавек. Нягледзячы на тое, што гарадзкія ўлады дазволілі "Маладому Фронту" праводзіць імпрэзу толькі на ўскрайку гораду, акцыя прайшла ў самым цэнтры - ля Ратушнай плошчы. Усім прысутным раздаваліся валянцінкі і віншаваньні.

У Бабруйску актывісты Маладога Фронту і Маладых сацыял-дэмакратаў віншавалі з Днём сьв. Валянціна старшыняў Ленінскага і Першамайскага райвыканкамаў, а таксама сябраў мясцовага БПСМ.

У сьвяточным шэсьці прыняло ўдзел каля 150 чалавек. Гэта першае маладзёвае мерапрыемства такога маштабу ў Бабруйску.

**Моладзь кааліцыі "Пераменаў!" у Горадні павіншавала з Днём сьв. Валянціна Сямёна Домаша. Сп. Домашу падарылі касэту "Мое каханьня"і сьвяточную накідку.**

У 17.00 на цэнтральнай плошчы Горадні сябры Маладога Фронту і Маладой Грамады раздавалі жыхарам горада віншаваньні з Днём любові. А ўвечары з нагоды сьвята ў мэдычным унівэрсытэце прайшла беларуская дыскатэка пад лёзунгам "Любові! Свабоды! Пераменаў!".

У Магілёве адбылося шэсьце, у якім прынялі ўдзел сябры Маладога Фронту, Моладзі АГП, Маладой Грамады, маладзёвага аб'яднаньня "Агмень". На плошчы Леніна насупраць КДБ удзельнікі шэсьця сканструявалі жывое сэрца, трымаючы ў руках бэнгальскія агеньчыкі.

Сябры Берасьцейскага Маладога Фронту павіншавалі са сьвятам любові прадстаўнікоў украінскага і польскага консульстваў.

У цэнтры Берасьця 50 "анёлаў", апранутых ў белыя строі з крыламі за сьпінамі, віншавалі мінакоў са сьвятам, раздаючы валянцінкі, спэцвыпускі бюлетэню "Пераменаў!" і каляндарыкі. Праводзіць акцыю ў цэнтры гораду гарвыканкам забараніў, спаслаўшыся на эпідэмію грыпу.

Сьвяточныя мерапрыемствы - канцэрты, беларускія дыскатэкі, віншаваньні мінакоў у цэнтры гораду - адбыліся яшчэ ў 25 гарадах Беларусі.

# ВОРША ПАДТРЫМЛІВАЕ КАНДЫДАТУРУ ДОМАША

10 лютага ў Воршы адбыўся сход прадстаўнікоў 9 дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў гораду. На ім было прынятае рашэньне зьвярнуцца да Каардынацыйнай Рады Дэмакратычных Сілаў Беларусі з заклікам падтрымаць кандыдатуру Сямёна Домаша ў якасьці адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў на прэзыдэнцкія выбары. Для інфармацыйнай падтрымкі гэтай ідэі створаная ініцыятыўная група, якую ўзначаліў старшыня Цэнтру "Крывіч" Алесь Шутаў. Аршанскія дэмакраты не сумняюцца, што неўзабаве КРДС прыйдзе да пагадненьня і Домаш будзе названы адзіным кандыдатам у Прэзыдэнты Беларусі ад усяго дэмакратычнага блёку. У сувязі з гэтым яны плянуюць зьвярнуцца да іншых грамадзкіх і палітычных сілаў рэгіёну з заклікам аказаць падтрымку Сямёну Домашу.

# МЕНСКАЯ АБЛАСНАЯ КРДС СТВАРАЕ ПЕРАДВЫБАРНЫ ШТАБ

8 лютага на ўстаноўчым сходзе Менскай абласной Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў было вырашана стварыць Менскі абласны штаб дзеля супольнай працы падчас прэзыдэнцкіх выбараў. Сустаршынямі абласной Каардынацыйнай Рады былі абраныя Валянцін Баранаў (БНФ) і Пятро Голасаў (АГП). Валянцін Баранаў заявіў, што ўдзельнікі кааліцыі настроеныя каардынаваць усе дзеяньні, фармаваць адну ўзгодненую пазыцыю: "Мы спадзяемся, што максымальна якасна будзе зроблена праца на карысьць паляпшэньня палітычнай, эканамічнай сытуацыі й дэмакратычнага працэсу".

У Менскую абласную КРДС зараз уваходзяць 7 арганізацыяў: БНФ "Адраджэньне", Партыя БНФ, АГП, БСДП (НГ), БСДГ, СПБ, а таксама прадстаўнікі Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Як сьцьвярджаюць удзельнікі абласной кааліцыі, гэта не канчатковы склад: "Мы адкрытыя і для іншых партыяў, прафсаюзаў і няўрадавых арагнізацыяў, якія падтрымліваюць нашыя погляды", - сказаў сп. Баранаў.

# "ПРАФСАЮЗНЫ РУХ БЕЛАРУСІ" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У студзені 2001 году зьявіўся новы прафсаюзны інтэрнэт-рэсурс "Прафсаюзны рух Беларусі". Сайт створаны для апэратыўнага інфармаваньня сусьветнай грамадзкасьці, міжнародных, беларускіх і расейскіх прафсаюзных арганізацыяў і СМІ пра сытуацыю ў Беларусі, а таксама для разьвіцьця і прапаганды інтэрнэт-камунікацыяў ў беларускім прафсаюзным руху. Палітыка і стратэгія сайту вызначаюцца Рэдакцыйнай радай, у якую увайшлі рэдактары чатырох прафсаюзных газэтаў Беларусі. Інфармацыя прэзэнтаваная ў трох мовах - беларускай, расейскай і ангельскай. На сайце падаюцца навіны пра дзейнасьць беларускіх прафсаюзаў, парушэньні правоў працоўных, аналіз сацыяльна-эканамічаній сытуацыі ў краіне, а таксама заканадаўства РБ пра прафсаюзы, юрыдычная кансультацыя і інфармацыя вядучых прафсаюзных аб'яднаньняў Беларусі - на http://www.praca.by.

Інфармацыя на сайце абнаўляецца не радзей як тры разы на тыдзень. Апэратыўнае кіраваньне сайтам ажыцьцяўляюць Натальля Ладуцька (рэдактар) і Юры Палевікоў (вэб-майстар).

Кантакты: тэл. (017)2236458
e-mail: praca@irex.minsk.by

# ГОМЕЛЬСКАЯ МАЛАДЗЁВАЯ КААЛІЦЫЯ ДМБ-2001 ХОЧА ДЭМАКРАТЫЧНАГА ПРЭЗЫДЭНТА

У Гомельскай вобласьці ўтварылася моладзевая кааліцыя "Дэмакратычная моладзь Беларусі-2001" (ДМБ-2001). У яе ўвайшлі некалькі моладзевых арганізацый і ініцыятыў з Гомелю й Рэчыцы, якія паставілі на мэце дамагчыся перамогі незалежнага дэмакратычнага кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах.

Першай акцыяй новага аб'яднаньня стала віншаваньне моладзі з Днём Сьвятога Валянціна. 14 лютага сьвяточныя валянцінкі распаўсюджваліся ў найбуйнейшых навучальных установах Гомелю й Рэчыцы.

ДМБ-2001 паставіў перад сабой задачу тлумачэньня маладым людзям неабходнасьці ўдзелу ў выбарах і шырокай агітацыі за незалежнага дэмакратычнага кандыдата.

# ГАРАДЗЕНЦЫ ПАДТРЫМАЛІ ПРЭЗЫДЭНТА ПІКЕТАМ

10 лютага ў Гародні ля гарадзкога Дома сувязі прайшоў пікет пад лёзунгам "Падтрымаем прэзыдэнта!" Ініцыятарам яго правядзеньня стала намесьніца старшыні Гарадзенскай філіі "Маладой грамады" Сьвятлана Нех. У пікеце прынялі ўдзел сябры мясцовых арганізацыяў "Маладая Грамада", "Малады Фронт" і "Моладзь АГП". У руках маладыя людзі трымалі плякаты: "Не крытыкуйце Лукашэнку, ён кіруе, як умее", "Все - на лыжню в поддержку президента!" і іншыя. Мінакам раздаваліся ўлёткі, у якіх параўноўваліся грошы, выдаткаваныя дзяржавай на сілавыя ведамствы, Упраўленьне справамі прэзыдэнта, а таксама на культуру і мастацтва. Ва ўлётках таксама прыводзіліся разнастайныя выказваньні сп. Лукашэнкі. А на яго прыжыцьцёвы помнік было сабрана каля тысячы рублёў. Пасьля пікету міліцыяй быў затрыманы грамадзянін Польшчы Пётр Цішэўскі, які фатаграфаваў акцыю.

# МІЖНАРОДНАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ ІМЯ ГЕНАДЗЯ КАРПЕНКІ ПРАВЯЛО СЭМІНАР У ЛІДЗЕ

10 лютага Міжнародным аб'яднаньнем імя Генадзя Карпенкі (МАГК) у Лідзе праведзена канфэрэнцыя-сэмінар, прысьвечаная стану грамадзтва напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Прэзэнтавала аб'яднаньне Людзьміла Філіпаўна Карпенка - жонка Генадзя Карпенкі, лідара дэмакратычнага руху Беларусі, загінулага пры незразумелых абставінах. З інфармацыяй па сытуацыю ў Беларусі напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў выступіў аналітык Уладзімер Глод. Вялікую цікавасьць выклікала пытаньне па адзіным кандыдаце ад апазыцыі. Па эканамічнай сытуацыі ў краіне зрабіў даклад Мечыслаў Гіруць.

# КНІГА ПРА ЯЗАФАТА КУНЦЭВІЧА

Выдавецтва "Сафія" пры Полацкай грэка-каталіцкай грамадзе выпусьціла кнігу вядомага ў беларускай эміграцыі ў ЗША рэлігійнага і культурнага дзеяча Вацлава Панцэвіча (каля 1910 — 1991) пра Язафата Кунцэвіча. Яна ўяўляе сабой агіяграфічны (царкоўны жыційны) твор і таму мае сьціплую, някідкую назву "Сьвяты Язафат, япіскап полацкі". Упершыню гэтае адзінае беларускае жыцьце знанага распаўсюджвальніка і абаронцы вуніяцтва зьявілася на сьвет у шасьцідзясятыя гады ў амэрыканскім горадзе Чыкага. "Беларускае выдавецкая сябрына" выпусьціла яго рэпрынтным спосабам і абмежаваным накладам. Адраджэньне грэка-каталіцтва ў Беларусі запатрабавала чарговага выхаду твора. Аднак выдаўцы палічылі, што праца Вацлава Панцэвіча ня можа быць проста прадубляванай. Яны правялі грунтоўную падрыхтоўку да выпуску. У першую чаргу тэкст быў трансьлітэраваны з лацінкі на больш ужывальны кірылічны шрыфт. Апроч таго, выдавецтва пераклала некаторыя небеларускамоўныя дакументы, прыведзеныя ў першым, амэрыканскім, выпуску. Былі зробленыя тлумачэньні тэрміналёгіі, удакладненыя спрэчныя ці памылковыя моманты кнігі.

## РЫЦАРСКІ ФЭСТ "БЕЛЫ ЗАМАК"

2-4 сакавіка ў Менску ў Палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41) пройдзе рыцарскі фэст "Белы Замак". У праграме фэсту - конкурс строяў, турнір, канцэрт-прэзэнтацыя кампакт-дыска "Легенды Вялікага Княства", тэатралізаваная рок-опэра "Тампль", пастановачныя бaі: Бугурт і бой, прысьвечаны бітве на Нямізе, рыцарскія спаборніцтвы, турнір лучнікау і арбалетчыкаў.

Арганізуе Фэст Ордэн Паўночнага Храма (Менск) пры падтрымцы Польскага Інстытуту і піўзаводу "Крыніца". У мерапрыемстве прымуць удзел рыцары і музыкі зь Беларусі, Латвіі, Польшчы, Расеі. Уваходныя квіткі можна будзе замовіць з 20 лютага ў "Сярэднявечным Інфарматары" праз тэлефон (017) 220-6874 альбо e-mail: siver @folk2.lingvo.minsk.by

## ВІДЭАФІЛЬМ "АБУДЖАНАЯ СТАЛІЦА"

У хуткім часе ў продажы зьявіцца беларускамоўны відэафільм "Абуджаная сталіца", прысьвечаны знакамітаму Фэсту сярэднявечнай культуры "Наваградак '2000", які адбыўся 24-25 чэрвеня 2000 году. Наваградзкі фэст быў прызнаны культурнай падзеяй лета 2000 году ў Беларусі, ён стаў лепшым сярэднявечным фэстам ва Ўсходняй Эўропе.

Фільм "Абуджаная сталіца" адлюстроўвае ўсе падзеі фэсту, а найбольш поўна і яскрава - урачыстае адкрыцьце, канцэрты, вянчаньне рыцара спадара Антуана і спадарычны Юліі, начны бугурт, салют, інсцэніроўку штурму Наваградзкага замку крыжакамі у 1314 годзе. Працяглась фільму - 40 хвілінаў. Па даведкі можна зьвяртацца праз тэлефон у Менску (017) 220-6874 альбо праз e-mail: siver-@folk2.lingvo.minsk.by.

## ШКОЛА ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ПРЫ ГАРАДЗЕНСКАЙ "РАТУШЫ" НАВУЧАЕ ЖЫЦЬ У СВАБОДЗЕ

Цэнтар Адукацыі пры Школе Правоў Чалавека (ШПЧ) Гарадзенскага Абласнога Грамадзкага Аб'яднаньня "Ратуша" праводзіць серыю семінараў "Навучаем жыць у свабодзе" для трэнэраў, настаўнікаў і праваабаронцаў па мэтодыцы навучаньня моладзі правам чалавека. Першы сэмінар адбыўся ў Бабруйску.

Школа правоў чалавека дзейнічае на працягу амаль двух гадоў. За гэты час яна правяла 3 чатырохмесячныя курсы і летнік па правах чалавека для школьнікаў і мае 62 выпускнікі. На працягу дзеяння ШПЧ вакол яе ўтварыўся 8-асабовы актыў трэнэраў зь ліку выкладчыкаў унівэрсытэту, маладых юрыстаў, журналістаў, псыхолягаў. Частка трэнэраў зьяўляецца выпускнікамі паўгадавой Школы Правоў Чалавека пры Хельсынскім Фондзе Правоў Чалавека ў Варшаве. Усе яны прайшлі шэраг мэтадычных сэмінараў па інтэрактыўных мэтадах навучаньня. Трэнэры ШПЧ маюць свае напрацоўкі для правядзеньня заняткаў па правах чалавека інтэрактыўнымі мэтадамі і зараз выдаюць свой падручнік, які прапануецца ўвазе ўсіх удзельнікаў адукацыйных сэмінараў.

## ГРАМАДЗЯНІН БЕЛАРУСІ - ГУЧЫЦЬ ГОРДА

Паводле паведамленьня Хартыі-97, у Заходняй Эўропе ўсё часьцей здараюцца выпадкі, калі жыхары краінаў былога СССР выдаюць сябе за беларусаў. Беларускі палітычны рэжым, які клясыфікуецца як дыктатарскі, амаль гарантуе атрыманьне ў Эўропе палітычнага прытулку. Паводле паведамленьняў прэсвавага цэнтру Хартыі ў Вялікабрытаніі, вопыныя ўцекачы вязуць з сабой павестку ад беларускай міліцыі альбо іншыя доказы прыналежнасьці да беларускай апазыцыі. Уцекачам з Расеі і Украіны атрымаць прытулак нашмат цяжэй.

Разгляд справы можа цягнуцца да некалькіх гадоў. Цягам гэтага часу імігрант мае магчымасьць працаваць, вучыць замежную мову і атрымліваць сацыяльную дапамогу.

**Шаноўныя патрыёты Беларусі!**

**Набліжаецца час, калі ад кожнага запатрабуецца адданая праца дзеля Бацькаўшчыны. Свае заявы на ўступленне ў Партыю БНФ накіроўвайце на адрас газеты, перадавайце асабіста, ці праз сяброў БНФ або пасылайце на адрас: 220005, г. Менск, вул. Варвашэні, 8, Управа Сойму Партыі БНФ.**

Ва Ўправу Сойму Партыі БНФ грамадзяніна Беларусі

______________________________

______________________________

______________________________

які нарадзіўся "____" ____________ 19___ г., жыве па адрасе________________________

______________________________

род заняткаў______________________

тэлефон__________________________

### ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне ў Партыю БНФ. Праграмныя палажэнні БНФ "Адраджэньне" падзяляю. Абавязуюся выконваць Статут Партыі БНФ.

________________ (дата)          ________________ (подпіс)

Заснавальнікі: Лідская гарадская і Лідская раённая рады БНФ "Адраджэньне". Рэдактар Ліда Кісялевіч

Адрас для допісаў: 231300 г. Ліда - 2 п/с 7

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі. Наклад 250 асобнікаў. Фармат А-4

Газета распаўсюджваецца на правах нутраной дакументацыі Надрукавана на абсталяванні Свабоднага прафсаюза Беларусі